**ВЯСНОЎЦЫ У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ПРЭЗЕНТАВАЛІ**




“СПРАВАЗДАЧУ ПА ВЫНІКАХ МАНІТОРЫНГУ МЕСЦАЎ ПРЫМУСОВАГА ЎТРЫМАННЯ”

СТАР. 2

Веснік ПРАВАбарончы

№ 12 [32] 2014 / 12

**ГРАМАДСКІ АКТЫВІСТ ЗМІЦЕР ПАЛОЙКА**

ЗАТРЫМАНЫ І АСУДЖАНЫ ПА ПРЫЕЗДЗЕ З УКРАІНЫ, ПРАМА НА ПЕРОНЕ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


ГРАМАДСТВА

# ДЗЕНЬ ВАЦЛАВА ГАВЕЛА

У чацвер 18 снежня тры гады таму пайшоў з жыцця вядомы чэшскі грамадскі дзеяч і палітык Вацлаў Гавел. Дзеля ўшанавання памяці свайго паважанага ва ўсім свеце суайчынніка чэхі праводзяць ініцыятыву «Кароткія штаны для Вацлава Гавела».



Ініцыятыва «Кароткія штаны для Вацлава Гавела» ўзнікла ў 2012 годзе і занаваная на вядомай гісторыі, звязанай з уступленнем Гавела ў палітычнае жыццё ў 1989 годзе: на інаўгурацыю на пасаду прэзыдэнта палітык з'явіўся ў залішне падкарочаных штанах, пра якія ў яго пасля пытаўся ледзь не ўвесь свет. Дарэмна ён тлумачыў, што віною тут не памылка краўца, а яго звычка падцягваць штаны ў кожнай драматычнай для яго сітуацыі.

“Мы лічым, што Вацлаў Гавел з'яўляецца адным з самых вядомых чэхаў на працягу нашай гісторыі. Мы шукалі спосаб ушанаваць памяць Вацлава Гавела нейкім асаблівым чынам - запамінальным і простым, каб да ўшанавання маглі падключацца усе, хто спачувае... Мы былі натхнёныя эпізодам з ранняга перыяду прэзідэнцтва Вацлава Гавела...”, – распавядаюць пра сваю задуму ініцыятары акцыі і папярэджваюць: калі цягам дня сустрэнеце кагосьці ў занадта кароткіх штанах, то ведайце – гэта адзін з тых, хто перакананыя, што неабходна пастаянна нагадваць пра ўнёсак Вацлава Гавела ў справу свабоды і дэмакратыі.

Вацлаў Гавел – вядомы ў свеце чэшскі пісьменнік і драматург, дысідэнт і праваабаронца, дзяржаўны дзеяч, які стаў апошнім прэзідэнтам Чэхаславакіі і першым прэзідэнтам Чэхіі – для многіх з'яўляецца ўзорам лідэра нацыі. Яму ўдалося правесці паспяховыя эканамічныя рэформы ў постсацыялістычнай краіне, што не супярэчылі ідэалам дэмакратыі і гуманізму, якімі ён заўсёды кіраваўся.

spring96.org

ЗАКАНАДАЎСТВА

# “КУХНЯ TV”: АБМЕРКАВАННЕ ЗАКОНАПРАЕКТА «АБ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ СЛУЖБЕ»

У другім выпуску праваабрончага відэапраекта «Кухня TV» старшыня праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі “Lawtrend” Алена Танкачова, намеснік старшыні ПЦ“Вясна” Валянцін Стэфановіч і супрацоўнік Цэнтра прававой трансфармацыі “Lawtrend” Міхаіл Мацкевіч абмяркоўваюць законапраект «Аб альтэрнатыўнай службе».

Права на альтэрнатыўную грамадзянскую службу (АГС) прапісанае ў артыкуле 57 Канстытуцыі. Аднак закон, які б рэгламентаваў АГС, у Беларусі адсутнічаў на працягу ўсяго перыяду існавання незалежнай беларускай дзяржавы, нягледзячы на шматлікія спробы прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці паўплываць на сітуацыю.

З мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці, наладзіць дыялог з уладамі была створана адмысловая кампанія “За альтэрнатыўную грамадзянскую службу”.

І вось, нарэшце, 10 лістапада 2014 году законапраект “Аб альтэрнатыўнай службе”быў прыняты дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ў першым чытанні. Але ён не адпавядае чаканням, бо некаторыя моманты гэтага дакументу выклікаюць занепакоенасць у праваабронцаў.

spring96.org

## «Вясна» запусціла праваабарончы відэапраект – «Кухня»




Праваабарончы цэнтр “Вясна” пачынае цыкл відэапраграм “Кухня TV”.

Кухня як месца для сустрэчаў прыхільнікаў і аднадумцаў.

Кухня як пляцоўка для шчырых і набалелых выказванняў.

Кухня як спосаб выпрацоўкі рэцэптаў сумесных дзеянняў у сучасных варунках.

Такім чынам, “Кухня TV” – гэта своеасаблівыя “круглыя сталы” з удзелам беларускіх праваабронцаў, прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці, абмеркаванні найбольш актуальных і наспелых у грамадстве пытанняў.

Адзін з ініцыятараў і ўдзельнікаў відэапраекту “Кухня TV” намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч кажа: “Кухня яшчэ з савецкіх часоў з'яўляецца сімвалам нон-канфармізму і ўнутранай эміграцыі. Але мы не эмігранты, мы не староннія і бяздзейсныя назіральнікі за тым, што адбываецца ў нашай краіне, па меры магчымасцяў мы спрабуем ўплываць на беларускае грамадства, актыўна супрацоўнічаем з міжнароднымі арганізацыямі, заклікалі і заклікаем беларускія ўлады кіравацца міжнароднымі абавязацельствамі, якія яны ўзялі на сябе ў галіне правоў чалавека”.

spring96.org

## З Баранавічаў палітвязні атрымаюць віншаванні з Раством Хрыстовым і надыходзячым Новым годам



Баранавіцкія грамадскія актывісты даслалі каляровыя віншавальныя паштоўкі з Раством Хрыстовым і надыходзячым Новым 2015 годам Мікалаю Статкевічу, Эдуарду Лобаву, Мікалаю Дзядку, Ігару Аліневічу, Яўгену Васьковічу і Арцёму Пракапенку.

У сваіх паштоўках неабыякавыя грамадзяне з Баранавічаў пажадалі палітвязням моцнага здароўя, аптымізму, шчасця, веры ў лепшую будучыню і каб надыходзячы Новы 2015 год спраўдзіў мары пра вызваленне. Падпісанты паштовак лічаць свае лісты і паштоўкі той невялікай маральнай падтрымкай, якую яны могуць ажыццявіць у сёняшніх умовах.

– У сваіх паштоўках і лістах мы пажадалі бадзёрасці і веры ў лепшае тым, хто знаходзіцца за кратамі праз свае палітычныя погляды, хто не можа сустрэць святы са сваімі блізкімі. Мы напісалі, што моцна чакаем іх вызвалення і заўсёды памятаем пра іх. Мы спадзяемся, што палітычныя зняволеныя адчуюць цеплыню віншаванняў ад баранавіцкіх сяброў, – паведаміў актывіст Руху "За свабоду" Віктар Сырыца.

Глеб Лушынскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПРАВААБАРОНЦЫ "ВЯСНЫ" ПРЭЗЕНТАВАЛІ "СПРАВАЗДАЧУ ПА ВЫНІКАХ МАНІТОРЫНГУ МЕСЦАЎ ПРЫМУСОВАГА ЎТРЫМАННЯ"

У сераду 10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека, Праваабарончы цэнтр "Вясна" прэзентаваў аналітычнае даследванне "Справаздача па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь". Справаздача была падрыхтаваная праваабаронцамі ў супрацоўніцтве з экспертам, юрыстам Паўлам Сапелкам.

Маніторынг, які ахоплівае перыяд з 2013 па 2014 год, праводзіўся шляхам аналізу пенітэнцыярнага заканадаўства, атрымання аб'ектыўных звестак як з адкрытых крыніц, так і шляхам інтэрв'юіравання зняволеных. Адначасова рабіліся захады ў рамках нацыянальнага заканадаўства па паляпшэнню ўмоў утрымання зняволеных.

Выступаючы пад час прэзентацыі справаздачы яе аўтар Павел Сапелка адзначыў, што ў даследванні прыводзяцца актуальныя дадзеныя аб колькасці месцаў зняволення і колькасці саміх зняволеных, падрабязны аналіз працоўных правоў зняволеных, якія, як паказвае маніторынг, паўсюдна парушаюцца. Прыведзены таксама аналіз заканадаўства, якое рэгламентуе правы зняволеных на перапіску і на звароты ў розныя інстанцыі, якія неабгрунтавана абмяжоўваюцца.



Прэзентацыя "Справаздачы па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання" 10 снежня 2014 года

Асаблівая ўвага нададзеная аналізу магчымасцей грамадзянскага кантролю месцаў абмежавання свабоды і зроблена выснова пра татальны закрыты характар такіх установ. Праваабаронцы канстатуюць практычную адсутнасць магчымасці заканадаўча весці такі кантроль.

Вывучаўся таксама стан закрытых установ адукацыі (спецПТВ і іншых), што дазволіла зрабіць выснову аб тым, што такія ўстановы маюць прыкметы месцаў пазбаўлення волі.

У даследванні ўдзялялася пэўная ўвага праблеме катаванняў і жорсткаму, бесчалавечаму абыходжанню ў месцах пазбаўлення волі. Прыводзяцца задакументаваныя прыклады падобнага абыходжання і робіцца выснова аб тым, што такія выпадкі, як правіла не расследаваюцца незалежнымі і аб'ектыўнымі інстанцыямі.

Павел Сапелка прызнаў, што "у праваабаронцаў абмежаваныя магчымасці, каб уплываць на сітуацыю ў месцах прымусовага ўтрымання ў поўнай меры, аднак ёсць магчымасць рабіць такія факты публічнымі і прапаноўваць дзяржаве прымаць пэўныя захады па выключэнню такіх парушэнняў.

На прэзентацыі справаздачы таксама выступіла жонка аднаго са зняволеных Людміла Кучура, якая на сваім уласным досведзе сутыкнулася з сітуацыяй, калі ў адносінах да яе мужа, які знаходзіцца ў зняволенні ў Магілёўскай турме №15, выкарыстоўваліся катаванні. Працяглы час жанчына паслядоўна, з дапамогай ПЦ "Вясна", намагаецца прыцягнуць да адказнасці асобаў, датычных да выпадкаў катавання яе мужа, Пятра Кучуры. Яе мужа адміністрацыя калоніі змясціла ў камеру з рассыпанай хлоркай, з-за чаго ён ледзь не памёр. Яна мяркуе, што гэтак яму адпомсцілі за скаргі на ўмовы ўтрымання і спробы дамагчыся перагляду сваёй справы.

Дадзены выпадак падрабязна прыводзіцца ў прэзентуемай справаздачы.

Па выніках маніторынгу даследчыкамі прапанаваныя меры як у галіне нарматыўнага рэгулявання, так і ў галіне правапрымянення, якія дазваляюць палепшыць становішча зняволеных.

Так, упаўнаважаным дзяржаўным органам прапаноўваецца прымаць меры па выключэнню выпадкаў катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага абыходжання у месцах несвабоды, па кожнаму выпадку праводзіць аб'ектыўную праверку і прыцягваць вінаватых у гэтым да крымінальнай адказнасці.

Неабходна таксама забяспечыць правы зняволеных на атрыманне юрыдычнай дапамогі, а таксама ліквідаваць інстытут лячэбна-працоўных прафілакторыяў,

Рэкамендуецца прыняць меры па прадухіленню дыскрымінацыі зняволеных у сферы працы, паслядоўна паляпшаць да належнага ўзроўню умовы ўтрымання зняволеных у калоніях і турмах, стварыць умовы для арганізацыі грамадскага кантролю за месцамі несвабоды.

spring96.org

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

# У БАРАНАВІЧАХ БАРАЦЬБА ЗА БЕЛАРУСКАМОЎНЫ КЛАС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Грамадская актывістка Таццяна Малашчанка атрымала ліст за подпісам намесніка міністра адукацыі Віктара Якжыка, у якім паведамляецца, што Міністэрства адукацыі сумесна з упраўленнем адукацыі Брэсцкага аблвыканкама разгледзелі калектыўны зварот бацькоў навучэнцаў гімназіі № 4 г. Баранавічы аб адкрыцці беларускамоўнага класа.

– Высокі дзяржаўны чыноўнік нагадаў, што ў адпаведнасці з Кодэксам аб адукацыі дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару навучання і выхавання на адной з дзяржаўных моваў Рэспублікі Беларусь. Але паколькі, адзначаецца ў лісце намесніка міністра, заснавальнікам гімназіі № 4, з'яўляецца Баранавіцкі гарвыканкам, то Міністэрства адукацыі не мае права змяніць мову навучання і выхавання ў дадзенай установе адукацыі. Атрымліваецца



Малашчанка Таццяна і яе дачка Яся на сядзібе Таварыства беларускай мовы ў Русінах Баранавіцкага раёна

нейкае замкнёнае кола: грамадзяне маюць права вучыцца па-беларуску, але гэтае права залежыць ад жадання і волі дзяржаўных чыноўнікаў, – паведаміла Таццяна Малашчанка.

Яна дадала, што нейкая надзея ўсё ж ёсць, бо Міністэрства адукацыі накіравала ва ўпраўленне адукацыі Брэсцкага аблвыканкама ліст, у якім упраўленню адукацыі сумесна з Баранавіцкім гарадскім выканаўчым камітэтатам прапанавана разгледзець пытанне аб магчымасці і мэтазгоднасці адкрыцця ў гімназіі № 4 класа з беларускай мовай навучання з улікам пажаданняў навучэнцаў і іх бацькоў.

Вітусь Свабодскі

ПЕРАСЬЛЕД

# ПА ПРЫЕЗДЗЕ З УКРАІНЫ ЗАТРЫМАНЫ І АСУДЖАНЫ АКТЫВІСТ ЗМІЦЕР ПАЛОЙКА

У Баранавічах праваахоўныя органы затрымалі актывіста Зміцера Палойку. Даведацца што-небудзь аб гэтай справе ў Зміцера было немагчыма, ён быў недаступны. У гарадской міліцыі толькі паведамілі, што ён знаходзіцца



ў ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ), іншай інфармацыі не давалі.

– Справа гэтая вельмі складаная і дэлікатная. Апошнія паўгады Зміцер Палойка быў ва Украіне, і як толькі ён прыехаў на вакзал у Баранавічы, то адразу быў затрыманы. Праз знаёмых я даведаўся, што на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства, і Баранавіцкі гарадскі суд прызнаў яго вінаватым і пакараў 10 суткамі арышту, якія ён цяпер адбывае ў ізалятары часовага ўтрымання. Але чаму за дробнае хуліганства міліцыя выклікае і дапытвае ўсю радню, забараняе ім пакідаць Баранавічы? У гэтай справе шмат незразумелага, і мы будзем яе адсочваць, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Глеб Лушынскі

## У Баранавічах віншавалі з Днём правоў чалавека



Нягледзячы на афіцыйную забарону ў правядзенні пікета 10 снежня, праваабаронцы і грамадскія актывісты горада Баранавічы правялі акцыю з нагоды 66-х угодкаў прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Актывісты раздавалі грамадзянам кніжачкі з тэкстам Дэкларацыі, а таксама інфармацыйныя матэрыялы, прысвечаныя праваабарончай тэматыцы.

– Артыкул 19 Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека і артыкул 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь абвяшчаюць права кожнага чалавека на свабоду поглядаў, перакананняў і на іх свабоднае выказванне. Таму мы сёння, 10 снежня, вырашылі павіншаваць нашых жыхароў горада Баранавічы з Міжнародным днём правоў чалавека. Падчас сустрэч на вуліцы мы не толькі віншавалі людзей са святам, але і дыскутавалі па праблемах кантрактнай сістэмы, пасіўнасці дзяржаўных прафсаюзаў, безабароннасці працоўных і іх няўменні адстойваць свае правы. Абсалютная большасць людзей прыязна ўспрымалі нашу дзейнасць і падкрэслівалі, што ў працоўных сёння ёсць толькі абавязкі, а правоў няма, – пракаментаваў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Вітусь Свабодскі

## Незалежную журналістку Тамару Шчапёткіну абвінавачваюць у незаконным вырабе друкаванай прадукцыі



У адміністрацыйным пратаколе, складзеным намеснікам начальніка аддзела аховы грамадскага парадку Бярозаўскага РАУС Мікалаем Пракуратам, адзначана, што Тамара Шчапёткіна парушыла арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Падставай для абвінавачання стала інтэрв'ю на сайце неакрэдытаванага ў Беларусі "Беларускага Радыё Рацыя" з загадчыкам цэнтральнай Бярозаўскай аптэкі Алегам Казюпай на тэму выдачы лекаў па рацэптах. Дарэчы, на сайце "Радыё Рацыя" кароткая інфармацыя са здымкам Казюпы змешчана без указання аўтарства.

Сярод здымкаў 4 жанчын, паказаных Казюпе і дырэктару сярэдняй школы № 1 Бярозы Мікалаю Жуковічу, у якога Шчапёткіна таксама брала інтэрв'ю, яны прызналі Тамару Шчапёткіну. Толькі Казюпа чамусьці сказаў, што Шчапёткіна сябе назвала Галінай Васілевіч.

Азнаёміўшыся з матэрыяламі справы, журналістка адмовілася даваць тлумачэнні, скарыстаўшыся канстытуцыйным правам не сведчыць супраць самой сябе.

Для Тамары Шчапёткінай, па яе словах, самым абуральным і агідным быў асабісты дагляд у вестыбюлі перад сталом міліцыянта, які сядзіць каля дзяжурнай часткі і запісвае ўсіх, хто прыходзіць у міліцыю, а таксама забірае асабістыя рэчы ў жалезны сейф, што стаіць побач.

Цяпер журналістка чакае позву ў суд.

spring96.org

СВАБОДА МІРНЫХ СХОДАЎ

## БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЦА ДАМОГСЯ ЗМЕНЫ РАШЭННЯ АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕННЯ МАСАВЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ

Па прапанове праваабаронцы Сяргея Гоўшы гарвыканкам прывядзе сваё рашэнне ад 16.06.2009 г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г. Баранавічы" у адпаведнасць з Пастановай Савета Міністраў ад 05.03.2012 года. Гэта вынікае з ліста, які Сяргей Гоўша атрымаў з Баранавіцкага гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Дз. Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што выканкамаўскае рашэнне да канца 2014 года будзе прыведзена ў адпаведнасць з Пастановай Савета Міністраў згодна даручэнню, дадзенаму Брэсцкім абласным выканаўчым камітэтам.



– Баранавіцкі гарвыканкам неабгрунтавана патрабаваў ад грамадзян заключэння дамоў з праваахоўнымі органамі пры правядзенні масавых мерапрыемстваў. Пры гэтым парадак арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў рэгламентуецца таксама Пастановай Савета Міністраў, згодна з якой выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам давесці копію заявы ў праваахоўныя органы, што якраз у Баранавічах і не выконвалася.У сувязі з гэтым я накіраваў скаргу ў Брэсцкі аблвыканкам, які і даручыў Баранавіцкаму гарвыканкаму прывесці ў адпаведнасць з Пастановай Савета Міністраў сваё рашэнне, – пракаментаваў Сяргей Гоўша.

Ён дадаў, што час пакажа, наколькі гэтыя змены ў рашэнні Баранавіцкага гарвыканкама будуць спрыяць дэбюракратызацыі адносінаў грамадскіх актывістаў з прадстаўнікамі мясцовай улады.

Вітусь Сабодскі

ПРАВААБАРОНЦЫ

## ЗАЯВА ПЦ «ВЯСНА» І ГА "БАЖ" У СУВЯЗІ З ІНФАРМАЦЫЯЙ АБ ЗМЯШЧЭННІ ПАД ВАРТУ ЖУРНАЛІСТА АЛЯКСАНДРА АЛЕСІНА

*Менск, 5 снежня 2014 года*

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" заклікаюць КДБ Рэспублікі Беларусь праінфармаваць грамадскасць аб прычыне і месцы ўтрымання пад вартай журналіста газеты "Беларусы і рынак", сябра ГА "БАЖ" Аляксандра Алесіна, а таксама сутнасці прад'яўленага яму абвінавачвання.

Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя (артыкул 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах замацоўвае: кожны чалавек мае права на свабоднае выказванне свайго меркавання; гэта права ўключае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага роду інфармацыю.

Карыстанне прадугледжанымі правамі накладае асаблівыя абавязкі і асаблівую адказнасць. Яно можа быць, такім чынам, спалучана з некаторымі абмежаваннямі, якія, аднак, павінны быць устаноўлены законам і з'яўляцца неабходнымі для павагі правоў і рэпутацыі іншых асоб, для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя або маралі насельніцтва.

Мяркуем, што інфармацыя аб затрыманні, змяшчэнні пад варту асобы, сутнасці падазрэнняў і абвінавачванняў, працэсуальным статусе, месцы ўтрымання і іншых аспектах, якія не маюць дачынення да дэталяў крымінальнага пераследу, не можа парушыць таямніцу следства, якая ахоўваецца па закону, і не паставіць пад пагрозу інтарэсы дзяржаўнай бяспекі, аховы грамадскага парадку.

Таму Праваабарончы цэнтр «Вясна» і ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" заклікаюць кампетэнтныя органы дзяржавы - пракуратуру, МУС, КДБ, Следчы камітэт - інфармаваць з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і са старонак уласных сайтаў аб кожным рэзанансным або стратэгічным выпадку абмежавання правоў грамадзян.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і ГА "БАЖ" нагадваюць, што незалежна ад цяжару прад'яўленага абвінавачвання, затрыманыя асобы карыстаюцца ўсімі правамі, за выключэннем тых, якія абмяжоўваюцца самім фактам утрымання ў няволі; катаванні, а таксама жорсткія, бесчалавечныя, прыніжаючыя асобу адносіны забароненыя.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
веснік ПРАВАБАРОНЧЫ